


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“

THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 44 (579) — Нядзеля, 29-га кастрычніка 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15

# Крамлёўскія сэнсацыі

XXII зьезд КПСС не абяцаў ніякіх сэнсацыяў, мяркуючы з заплянаванага парадку дня. Было больш чымся пэўным, што зьезд зацьвердзіць новую — трэйцюю — праграму, і статут партыі, і што на вярхох маскоўскага Алімпу ня будзе пэрсанальных зьменаў.

Раптам здарыліся неспадзеўкі паза парадкам дня, якія яскрава даказваюць, як асьцярожна трэба падыходзіць да ўсякіх нормаў і канонаў. Ужо пасьля першага дакладу Хрушчова на форуме зьезду нечакана зьявіліся дзьве праблемы, не прадбачаныя парадкам дня: гэтак званая «антыпартыйная група» і канфлікт з Альбаніяй. Абедзьве гэтыя праблемы можна было-б зьвесьці да аднаго супольнага назоўніка: «дэсталінізацыя» — калі-б яна была шчырай і грунтоўнай. На гэтым зьезьдзе Хрушчоў лаяў Сталіна бадай больш, чымся на сакрэтным пасяджаньні XX зьезду ў 1956 годзе. Але за што? За «культ асобы», за тое, што Сталін зьнішчыў некалькі сотняў «добрых таварышоў» — камуністых. Аднак Хрушчоў не прыгадаў аб жахлівых злачынствах прымусовай калектывізацыі, аб сьведамым і сыстэматычным вынішчэньні эліты нацыянальных рэспублікаў, аб жахлівым тэроры, які ператварыў СССР у вялізарны канцэнтрацыйны лягер. Чаму-ж ён не зрабіў гэтага, калі шчыра хацеў адмежавацца ад Сталіна.

У сваіх бясконцых і нязьлічоных прамовах Хрушчоў часта цытуе, вэрсэты з Эвангельля. Тут варта было-б яму прыгадаць: «Хто з вас бязь віны, няхай кіне ў яе каменем». Хрушчоў гэтага каменя не падняў. І зусім зразумела, чаму. Верны вучань Сталіна, які так дзякаваў свайму настаўніку за тое, што ён зьнішчае «агідных чарвякоў», якія на загад свайго настаўніка («эй, хахол, пляшы Гапака!»), лупіў Гапака, на сумленьні якога таксама нязьлічоныя злачынствы — ня мог асуджваць гэтых злачынстваў. Тым больш, што на рахунку Хрушчова ёсьць новыя злачынствы — варта толькі прыгадаць крывавае здушэньне Вугорскай рэвалюцыі. Тут аўтарскіх правоў Хрушчову ніхто не запярэчыць — мураванае «Copy right»...

Вось таму гэтых нечаканых праблемаў, якія выйшлі наверх на цяперашнім зьезьдзе КПСС, нельга проста зьвесьці да супольнага назоўніка «дэсталінізацыя». Хрушчоў і ягоныя падгалоскі — розныя мазуравы, підгорныя ды іншыя накінуліся на гэтак званую «антыпартыйную групу». Чатыры гады таму, калі Хрушчоў разграміў гэтую групу, яна складалася з Молатава, Маленкова, Кагановіча, Булганіна і Шэпілава (які «да яе далучыўся»). Сяньня да гэтай групы Хрушчоў даплюсаваў Пярвухіна, Сабурава і васьмідзесяцігадовага Варашылава. Кажуць, «няма дыму без агню». Здавалася-б, «антыпартыйная група» даўно зьліквідаваная, а раптам на найвышэйшым партыйным аэрапагу палічылі патрэбным узнавіць гэтую справу. Гэта значыць, што ў партыі існуюць небясьпечныя элемэнты і цяперашнія партыйныя верхаводы загадзя шукаюць апраўданьня для будучых чыстак. Як паказала практыка 44 гадоў, у дзяржаве жахлівых парадоксаў — Савецкім Саюзе — гэта нармальная рэч. Маўляў, «моль — маля, а чорт — усіх»...

Куды больш цікавейшы канфлікт з Альбаніяй, які можна было-б назваць канфліктам сланя з мухай. Аднак, як бачым, за гэтай мухай стаіць другі слонь — Кітай.

На зьезьдзе Хрушчоў і іншыя даволі войстра крытыкавалі «альбанскіх таварышоў». У вабароне альбанскай «герэзіі» выступіў толькі кітайскі прэм'ер Чжоў Энь Ляй, які дамагаўся, каб сямейныя сваркі ня выносіліся навонкі. Аднак, ня гледзячы на тое, што Чжоў Энь Ляя сустракалі й праводзілі (бо раптам Чжоў Энь Ляй пакінуў Маскву) з найбольшымі гонарамі, ня гледзячы на ягоныя перасьцярогі, — напады на кіраўніцтва альбанскай кампартыі ня спыняюцца.

Тут ужо ня можа быць сумлеваў, што гэтая крытыка перш за ўсё тычыцца Кітаю, хоць гаварылася толькі пра Альбанію.

На гэтыя напады Альбанцы неспадзявана адказалі вельмі войстра ў заяве, апублікаванай 20 кастрычніка, у якой, між іншага, гаворыцца: «Паклёпніцкія й антымарксыстоўскія выказваньні Хрушчова служаць толькі інтарэсам ворагаў камунізму... Даводзячы да ведама ворагаў разыходжаньні, якія на працягу доўгага часу існуюць паміж кіраўніцтвам КПСС і Альбанскай партыяй працы, Хрушчоў груба парушыў Маскоўскую дэклярацыю з 1960 году... Альбанскі народ і партыя перамогуць, таму, што мы не адны. З намі, зь вялікай справай марксызму-ленінізму ня толькі народы Савецкага Саюзу, але й камуністыя й народ Кітаю...»

Як бачым з гэтых выказваньняў альбанскіх камуністых — вылезла шыла з камуністычнага мяшка. Цяпер відаць, чаму альбанская муха не баіцца савецкага сланя.

Сёньня цяжка сказаць, што прымусіла Хрушчова адкрыта прызнацца да канфлікту, які існуе паміж партыямі камуністычнага блёку. Цяпер, аднак, няма сумлеву, што гэтак званы камуністычны «маналіт» мае глыбокія шчыліны — глыбейшыя, чымся думалася.

пс

## ДА ПАДПІСЧЫКАЎ І ПРАДСТАЎНІКОЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**З прычыны таго, што за апошнія гады падвоіліся кошты друку й паперы й не павышалася ў сувязі з гэтым цана газэты, з новага 1962 году ўводзіцца наступная падпісная цана на газэту:**

| Краіны: | за год | за паўгода |
|---|---|---|
| Нямеччына й іншыя краіны Эўропы бяз Францыі й Ангельшчыны | 25 н. м. | 12,5 н. м. |
| Францыя | 25 н. ф. | 12,5 н. ф. |
| ЗША й Канада | 13 дал. | 6,5 дал. |
| Ангельшына й Аўстралія | 60 шыл. | 30 шыл. |

**Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, а ў Аўстралію й краіны Паўдзённай Амэрыкі — патройна. Для паўдзённаамэрыканскіх краінаў цана раўназначная зь Нямеччынай.**

**Адміністрацыя**

# Сёе-тое

Сёлетні кастрычнік прынёс нам галасы, над якімі варта задумацца ўсім, што так ці йнакш турбуюцца аб далейшым лёсе нашай плянэты. Першы — голас праўды, другі — атруты й хвальшу.

Вось што сказаў брытанскі прэм'ер-міністар Макмілян на канфэрэнцыі Кансэрватыстых у Брайтоне: «Камуністычная Расея ёсьць цяпер найбольшай імпэрыялістычнай дзяржавай у сьвеце. Яна ўжывае ўсе прыхваткі й амбіцыі царскай Расеі, падмацаваныя тэхнічнымі палепшаньнямі мадэрнага сьвету, а таксама мае дзіўную хоць і хвальшывую веру, што прыцягвае да сябе як найбольш прымітыўныя, так і найбольш заавансаваныя элемэнты з грамадзтва.

Але ведама, што калі знойдзешся ў мядзьвежых абдымках, то ня вырвешся...»

Другі голас даносіўся з XXII кангрэсу Камуністычнай партыі ў Крамлі.

Мікіта Хрушчоў. у сваёй амаль дзесяцігадзіннай прамове на XXII-м Зьезьдзе знайшоў месца ня толькі для нападу на некалі «зялезнага маршала Кліма», але й на малую Альбанію, у якой яшчэ й цяпер, паводля Мікіты, «пануе культ асобы». Быццам сам Хрушчоў вельмі супраць таго, каб узьвесьці свой «культ асобы». Але, казаў той, хто ня кінецца на малога...

☆

Многія людзі яшчэ больш пачалі шанаваць эгіпецкага прэзыдэнта Насэра пасьля таго, як ён не супраціўляўся збройнай сілай адлучэньню Сырыі.

✳

Як кажнаму, хто цікавіўся пачаткамі беларускага адраджэньня, вядома, Ігнат Буйніцкі із сваей тэатральнай трупай заглядаў у найглыбейшыя закануркі нашай бацькаўшчыны, жывым мастацкім словам, песьнямі й танцамі будзіў людзей з доўгага сну, быў зьвястуном-жаўруком, што падымаў людзей да сонца вялікага прадвесьня. Ігнат Буйніцкі чэрпаў сілу з народу і ўсю аддаваў для народу. Ён і памёр навет на сцэне, танцуючы віхрыстую Лявоніху. Ігнат Буйніцкі — будзіцель народнай і мастацкай беларускай душы зрабіў перад Першай сусьветнай вайной аграмадную працу й прысьпешыў працэс народнага ўсьведамленьня, а значыцца й імкненьняў да вызваленьня з-пад маскоўскае акупацыі. І вось таму так дорага нам сяньня ягоная памяць.

У «Беларусь» № 9 замешчаны рэпартаж «На радзіме Ігната Буйніцкага». Шмат давялося чуць аб ім, як самадзейным мастаку. А вось што аўтар рэпартажу А. Саньнікаў піша аб ім, як аб чалавеку:

«—Добры быў чалавек, — успамінае І. Голер (былы цымбаліст трупы Буйніцкага) пра яго. — Ласкавы, ветлівы; любіў мужыкоў, бедных людзей. Пані была багатая ў Горках, дык Буйніцкі, мераючы яе зямлю, (ён каморнікам працаваў), адрэзаў у карысьць сялян 15 гактараў. Пані раззлавалася, другі каморнік перамерыў, вярнулі ёй зямлю, а Буйніцкага выгналі са службы. Буйніцкі не паніўся, вітаўся з сялянамі за руку, а пакліча дапамагчы луг касіць — палову сена аддасьць».

«Перад пачаткам першай імпэрыялістычнай вайны фінансавыя перашкоды прымусілі І. Буйніцкага пакінуць сцэну. Ён быў вымушаны перадаць свой дом і зямлю ў Палівачах, разьлічыцца з даўгамі па тэатру і перабрацца ў Празарокі. Але нястомнае сэрца і тут не дало спакою: каб дапамагчы сялянам, ён арганізаваў у Празароках крэдытнае таварыства, якое шырока абслугоўвала сялянскія патрэбы».

Як-жа ўшаноўвае гэтак званая народная ўлада гэтага сына, што некалі ўсё аддаў для народу, Вось аўтар гэтак апісвае наведзіны магілы Буйніцкага: «З хваляваньнем падыходзім да ўзгорку, адшукваючы вачыма месца, дзе пахаваны выдатны беларускі акцёр. Але навет сам І. Голер не адразу знайшоў магілку. Ад соснаў-прыгажуняў застаўся толькі адзін абгарэлы патрушчаны пень. А недалёка ад яго, сярод тонкага й густога хмызьняку, высоўваецца з травы невялічкі абломак крыжа, што стаяў на магіле Буйніцкага, ды ўпартая галінка бэзу зноў вырасла на месцы былога дрэва, калісьці пасаджанага тут сябрамі акцёра.

Пастаялі моўчкі. Мокрае пасьля дажджу лісьце раняла кроплі сьлёз на густы травяны дыван... І ў нашым уяўленьні паўставаў іншы малюнак. Зьнік хмызьняк, а на месцы падгніўшага абломка дубовага крыжа ўзьняўся строгі, прыгожы помнік, з якога на нас глядзелі ўважлівыя й ветлівыя вочы І. Буйніцкага і спакойна зьзялі высечаныя на камяні кароткія радкі Купалаўскага вершу:

Важна рэй Ігнат Буйніцкі
Ў танцах нашых водзіць,
Аж здаецца усё чыста
Ходырам з ім ходзіць».

Ці-ж тут патрэбныя камэнтары?

Адно мо варта прыгадаць на «апраўданьне» «народнай ўлады»: дзе-ж ім знайсьці час, каб паставіць помнік Буйніцкаму ці ўпарадкаваць ягоную магілку, калі ў кажнай захалустай мясцовасьці трэба паставіць перш помнік Ільічу?..

✳

Ці не найбольшыя дзівосы адбываюцца й адбываліся ў чырвоным Кітаі. Гэты гігант пасьля 12 гадоў камуністычнага панаваньня зьяўляецца краінай ня меншых кантрастаў, чымся й сама «матушка», а мо й большых. Вось гадоў сем ці восем таму былі агульнакітайскія аблавы на катоў, сабак і вераб'ёў, аб якіх за межамі мо й няшмат чулі. Мэтай было вынішчэньне сабачага, кацінага й вераб'інага насельніцтва, каб самым кітайцам было больш харчоў. Навошта трымаць дармаедаў!.. Ну й зьвялі ўсіх.

Цяпер адбываюцца іншыя аблавы. Сяляне палююць на розных шкодных польных насякомых, што зьнішчаюць рыс і іншыя культуры. Значыцца сяляне цяпер робяць вераб'іную працу. Аж грэх жартаваць. Але ўявіце сабе такое: вяртаецца селянін-кітаец вечарам з поля й дакладае свайму камуністычнаму брыгадзіру: таварыш Вунь-Сунь-Глянь, я сяньня за чатырох вераб'ёў зрабіў!

Аб мышах пакуль што нам не ўдалося нічога даведацца. Але што-б яны елі, каб і былі, калі самым кітайцам не стае?

**Міхась Козыр**

# Ці ёсьць падставы „сьмела глядзець у заўтрашні дзень?“

«Сьмела глядзець у заўтрашні дзень» — пад такім загалоўкам зьявіўся артыкул беларускага паэта, сябры КПСС Міколы Хведаровіча ў 250-ым нумары газэты «Советская Белоруссія».

Што-ж дае падставы Міколу Хведаровічу так «сьмела глядзець у заўтрашні дзень»? Цытуем ягоныя словы з прыгаданага артыкулу: «Да глыбіні душы хвалююць і цешаць словы дакладу Мікіты Сяргеевіча аб аднаўленьні ў нашай краіне ленінскіх нормаў партыйнага жыцьця і рэвалюцыйнай законнасьці. Ён сказаў: 'Цэнтральны Камітэт **пастанавіў сказаць праўду** аб злаўжываньні ўладай у пэрыяд культу асобы...'»

Аўтар артыкулу Мікола Хведаровіч мае падставы цешыцца, што «ЦК пастанавіў сказаць праўду», бо ахвярай гэтак званага «злаўжываньня ўладай» стаўся ў свой час і ён сам — Хведаровіч прабыў доўгія гады ў высылцы, і толькі некалькі год таму быў «рэгабілітаваны» ды вярнуўся ў Беларусь.

Далей, далучаючыся да выступленьняў першага сакратара ЦК КПБ Мазурава на XXII зьезьдзе КПСС, Хведаровіч асабліва лае Маленкова, пасьля візыты якога ў 30-ых гадох ў Менск, як кажа аўтар, «яшчэ мацней узваліліся на галовы сумленных камуністых рэспублікі грубыя рэпрэсіі.

У сувязі з гэтым варта прыгадаць, што гаварыў на XXII зьезьдзе Мазураў. Падчас яжоўшчыны, зь віны Маленкова, — казаў Мазураў, — «амаль увесь кіруючы склад рэспублікі, у тым ліку сакратары ЦК, старшыня Саўнаркому (Галадзед), наркомы, многія кіраўнікі мясцовых партыйных і савецкіх органаў і **прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі** былі выключаныя з партыі і многія зь іх арыштаваныя». І Мазураў дадаў: «Усе гэтыя ні ў чым не вінаватыя людзі цяпер рэгабілітаваныя, прычым многія пасьмяротна».

Хіба найбольш характэрным у прамове Мазурава было тое, што ён успомніў прозьвішча Галадзеда — беларускага камуністага, аднае зь нязьлічоных ахвяраў бальшавіцкіх чыстак. Нялёгка дагадацца, чаму Мазураў выбраў якраз асобу Галадзеда: ягонага «пралетарскага паходжаньня» ніхто ня можа паставіць пад сумліў. Няма таксама ніякіх падставаў прыпісаць яму «буржуазны нацыяналізм» ці «нацдэмаўшчыну». У першыя гады бальшавіцкае акупацыі Беларусі Галадзед займаў становішча старшыні Выканкому гораду Горы-Горкі. На гэтым становішчы ён браў нават удзел у ліквідацыі антысавецкіх партызанаў. Пасьля — на працягу амаль 10-ці год — ён займаў становішча старшыні Саўнаркому БССР. Хіба адзінай ягонай віной у вачох бальшавікоў было тое, што будучы Беларусам і добрым гаспадарнікам, ён абараняў эканамічныя інтарэсы Беларусі. Дарэчы, ён быў знаёмы і меў добрыя дачыненьні зь сябрамі цяперашняй гэтак званай «антыпартыйнай групы» Молатавам і Варашылавам, а таксама і зь Мікаянам...

Пасьля арышту, недзе ў 1937 годзе, падчас допыту ў НКВД, Галадзед выкінуўся зь пятага паверху і забіўся.

Мазураў, ідучы за прыкладамі Хрушчова, «пастанавіў сказаць праўду» — але, як і Хрушчоў — сказаў ня **ўсю** праўду. Усяе праўды ён не сказаў і ня скажа. Мазураў не сказаў і ня скажа, што адзінай віной Галадзеда было тое, што ён быў **Беларусам,** а тады «чысьцілі» Беларусаў, усіх тых «сакратароў ЦК, наркомаў, многіх кіраўнікоў партыйных, савецкіх органаў», пра якіх гаварыў Мазураў на 22 партыйным зьезьдзе. Мазураў не сказаў, што пасьля прыгаданае партыйнай чысткі ў Беларусі, віну за якую ён узвальвае цяпер на Маленкова, на XVII зьезьдзе кампартыі Беларусі ў чэрвені 1938 году, на месцы «вычышчаных» **у ЦК КПБ ня быў выбраны ніводзін беларус:** увесь ЦК складаўся з прысланых Масквой стаўленікаў.

Ды — справа гэтым не канчаецца. Хрушчоў і Мазураў, якім падпявае Мікола Хведаровіч, праліваюць сьлёзы толькі над **партыйнымі кадрамі, што сталіся ахвярамі чысткі — як быццам-бы толькі гэтыя кадры былі паўнавартаснымі людзьмі.** Яны не заўважаюць ці ня хочуць заўважаць, што гэтым яны выкрываюць самых сябе: выкрываюць той факт, што, з аднаго боку, дыктатар-партыя, прадстаўнікамі якое яны зьяўляюцца, і паняволеныя ёю народы, з другога — гэта два супрацьлежныя полюсы, якія нельга прывесьці да агульнага назоўніка. Чаму, прыкладам, Мазураў гаварыў толькі аб партыйных кадрах, а ні словам не прыгадаў аб такіх прадстаўнікох беларускай культуры і навукі, як драматург і рэжысэр Уладыслаў Галубок, пісьменьнікі Чарот і Зарэцкі, прафэсары Шчарбакоў, Панкевіч, Круталевіч і мноства іншых? Усе яны-недабіткі папярэдніх чыстак — былі арыштаваныя ў той-жа перыяд, пра які гаварыў Мазураў на XXII зьезьдзе. Выглядае, што яны ня вартыя навет успаміну, бо яны не належылі да партыйных кадраў...

«Сьмела глядзім у заўтрашні дзень» — заяўляе пісьменьнік Мікола Хведаровіч. Нажаль, беларускі народ і ўсе паняволеныя народы ў бальшавіцкай турме ня могуць падзяляць гэтага аптымізму. Учора чысьцілі адных, заўтра могуць чысьціць іншых — так доўга, як будзе існаваць крамлёўская дыктатура. Толькі тады, калі беларускі народ, — як і іншыя паняволеныя цяпер народы, — станецца сам гаспадаром свайго жыцьця і лёсу, калі бальшавіцкая папяровая дэмакратыя і сувэрэннасьць ператворыцца ў сапраўдную, — толькі тады наш народ здолее сказаць: «Сьмела глядзім у заўтрашні дзень».

**У. Н.**

# Злачынная палітыка тэрору супраць усяго людзтва

Ня гледзячы на войстрыя пратэсты міжнародных арганізацыяў, дзяржаўных дзеячоў усяго сьвету і ўсёй сусьветнай грамадзкасьці, 30 кастрычніка была ўзарваная абвешчаная Хрушчовам савецкая вадародная звышбомба, магутнасьць якой заходнія спэцыялістыя акрэсьліваюць ад 50 да 100 мільёнаў тонаў тратылю. Ад 1 верасьня да канца кастрычніка ў Савецкім Саюзе было праведзена каля 25 ядзерных выпрабаваньняў. Павышэньне небясьпечнай для людзкога арганізму радыяактыўнасьці атмасфэры і зьвязаная зь ёй небясьпека для цяперашняга і будучых пакаленьняў выклікала нябывалае дасюль абурэньне і аднадушнае асуджэньне сярод грамадзтва ўсіх краінаў некамуністычнага сьвету.

Савецкая прэса і радыё аб гэтых выпрабаваньнях нічога не паведамляла, не зважаючы на тое, што яны зьяўляюцца найбольшай небясьпекай якраз для насельніцтва Савецкага Саюзу.

Ніжэй зьмяшчаем некаторыя выказваньні заходніх дзяржаўных дзеячоў і прэсы аб савецкіх ядзерных выпрабаваньнях.

Прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Кэнэды зьвярнуўся да Хрушчова з заклікам адмовіцца ад намеру правесьці выпрабаваньне 50-ці мэгатоннай бомбы. У сваёй заяве кіраўнік амэрыканскага ўраду адзначыў, што Амэрыка ўжо ад 57-га году мела магчымасьць прадукаваць такія бомбы, але наўмысна ад гэтага ўстрымалася.

З такой-жа просьбай зьвярнуўся да Хрушчова і ангельскі ўрад.

У Палітычны Камітэт Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў была пададзеная супольная заява 25-ці краінаў. У заяве гаварылася аб штораз большай небясьпецы радыяактыўнага затруцьця атмасфэры й прапанавалася наладзіць сталы кантроль над гэтым затруцьцём з боку міжнароднай мэтэаралягічнай арганізацыі.

Прэм'ер Індыі Нэру, звычайна вельмі асьцярожны ў сваіх выказваньнях, з гарычай зазначыў: «Савецкі ядзерны выбух затруціў не толькі атмасфэру, але і сэрцы, і розумы людзей.»

Сёмы кангрэс сацыялістычнага Інтэрнацыяналу, на якім сабраліся прадстаўнікі сацыялістычных і работніцкіх партыяў дзесяткаў краінаў — прыняў рэзалюцыю, у якой гаворыцца: «Гэты выбух — страхотнае злачынства супраць усяго людзтва».

Супраць пастановы савецкага ўраду з афіцыйным войстрым пратэстам выступілі швэдзкі прэм'ер Эрляндэр, прэзыдэнт Ганы Квамэ Нкрума, канадзкі прэм'ер Дыфэнбэйкэр. Дыфэнбэйкэр назваў заплянаваны выбух савецкай звышбомбы «злачынствам супраць чалавецтва». Савецкае пасольства ў Атаве адкінула пратэст канадзкага ўраду, заявіўшы, што выбух звышбомбы — гэта ўнутраная справа савецкага ўраду.

Міністар замежных спраў Аўстрыі Крайскі, выступаючы праз радыё, зьвярнуўся да Хрушчова з заклікам не праводзіць гэтага выбуху, які, як сказаў Крайскі, савецкі ўрад мае намер ажыцьцявіць «бяз уліку інтарэсаў малых краінаў».

Імпэратар Абісыніі Гайле Сэлясье перадаў савецкаму паслу ў Адыс Абэбе зварот да Хрушчова, у якім ён выказаў сваю заклапочанасьць намерам савецкага ўраду, і просьбу перагледзець пастанову аб выпрабаваньні вялізарнай вадароднай бомбы.

З пратэстамі выступілі ня толькі дзеячы розных краінаў сьвету, але і простыя грамадзяне гэтых краінаў.

У Бэргэне група нарвэскіх жанчынаў зьвярнулася да нарвэскіх матак з заклікам пісаць Ніне Хрушчовай лісты з просьбай паспрабаваць уплыць на свайго мужа і прымусіць яго перагледзець небясьпечную пастанову.

У Лёндане каля будынку савецкага пасольства адбылося некалькі дэманстрацыяў праціўнікаў ядзерных выпрабаваньняў. Такія-ж дэманстрацыі адбыліся перад будынкамі савецкіх пасольстваў у Стокгольме, Копэнгагэне, Рыме і Осьлё.

Аднадушнай была і думка прэсы вольных краінаў:

Японская газэта «Токіё Таймс» пісала: «Мы не разумеем як можа савецкі ўрад ігнараваць думку сусьветнай грамадзкасьці, рыхтуючыся правесьці жахлівае ядзернае выпрабаваньне».

Італьянская газэта «Іль Тэмпо» пісала: «Зварот прэзыдэнта ЗША Кэнэды да савецкага ўраду можна ўважаць выказьнікам думак ўсяго чалавецтва. Бо-ж усё чалавецтва баіцца згубных вынікаў гэтага выпрабаваньня, прадбачыць якіх у поўнай меры яшчэ нельга.

Аўстрыйская газэта «Зальцбургэр Нахрыхтэн» пісала: «Выбух новай савецкай бомбы выкліча гібель вялізарнай колькасьці людзей».

Швайцарская газэта «Газэт дэ Лёзан» пісала: «Мы асуджаем намер Хрушчова ўзарваць вялізарную вадародную бомбу. Выбухам гэтае жахлівае зброі, неапраўданым ніякай ваеннай неабходнасьцяй, Хрушчоў мае намер укаранаваць свой атамны фаервэрк апошніх тыдняў.»

Швэдзкая газэта «Дагэнс Нігэтэр» адзначала: «Заплянаваны выбух вадароднай бомбы не апраўдваецца ніякай ваеннай неабходнасьцяй.»

Абісынская газэта «Этыёпіен Гэральд» пісала: «Паведамленьне Хрушчова ўстрэсла ўвесь сьвет. Радыяцыя, якая ўзьнікне ў выніку гэтай звышбомбы, здольная атруціць у шмат якіх краінах сьвету ваду, ежу, насеньне расьлінаў».

Каірская газэта «Ахбар аль-Іём» заклікала ўсе нэўтральныя краіны зьвярнуцца да савецкага ўраду з заклікам адмовіцца ад заплянаванага выпрабавальнага выбуху.

Бэйруцкая газэта «Саўт аль-Араба» пісала: «Заплянаваны выбух новай бомбы — гэта нішто іншае, як вялізарны скандал — доказ поўнага банкруцтва гуманізму ў 20-ым стагодзьдзі».

Маляйская газэта «Стрэйтс Таймс» пісала: «Гэты выбух распаўсюдзіць над усім сьветам такую колькасьць радыяактыўных ападкаў, якая пры больш нармальных абставінах не магла-б сабрацца за доўгія гады».

Індыйская газэта «Дынамані» пісала: «Калі Хрушчоў хоча, каб мы паверылі ў ягоныя мірныя запэўніваньні — няхай ён адмовіцца ад правядзеньня гэтага выбуху».

Пратэсты насельніцтва, прэсы і кіраўнікоў урадаў розных краінаў зьліліся ў пратэсьце Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў.

Палітычны Камітэт Генэральнай Асамблеі ААН 75-цю галасамі пры 17-ці, якія ўстрымаліся, прыняў рэзалюцыю, у якой выказаў непакой з прычыны павышэньня радыяактыўнасьці атмасфэры ў сувязі з сэрыяй ядзерных выпрабаваньняў у Савецкім Саюзе і ўрачыста заклікаў савецкі ўрад не праводзіць выбуху заплянаванай вялізарнай вадароднай бомбы, магутнасьцяй 50-ці мільёнаў тонаў звычайнага выбуховага матарыялу.

Правёўшы выбух гэтай бомбы, Хрушчоў даказаў, зь якім цынізмам і пагардай ён ставіцца да грамадзкай думкі і бясьпекі ўсяго сьвету.

# Дэмаралізацыя партыйнай бюракратыі

Гаворачы аб новай праграме КПСС, у сваёй прамове на XXII партыйным зьезьдзе, Хрушчоў падкрэсьліў, што камуністычнае грамадзтва будзе існаваць толькі тады, калі будзе выхаваны новы тып чалавека на падставе камуністычнай маралі. Як мы ўсе ведаем, бальшавіцкая прапаганда цьвердзіць на працягу апошняга часу, што камунізм ужо не за гарамі. Як-жа выглядае справа з выхаваньнем гэтага новага чалавека ў нас, ў Беларусі? На гэта мы знаходзім ў пэўнай меры адказ у дакладзе Мазурава на XXV зьезьдзе КПБ.

Мазураў горача заклікаў партыйныя арганізацыі змагацца за перамогу камуністычнай маралі ў Беларусі, перавыхоўваць людзей у ейным духу. Ён заявіў: «Трэба надаць усёй ідэялягічнай рабоце высокую марксысцка-ленінскую ідэйнасьць і няпрымірымасьць», бязьлітасна зьнішчаць усе праявы буржуазнай сьведамасьці, дармаедзтва, жаданьне нажывы, хуліганства і іншыя заганы мінулага.

Паводля словаў Мазурава, гэтае заданьне павінны ўзяць на сябе партыйныя кадры, якія ён называе авангардам беларускага народу. Можна было-б падумаць, што партыя чыстая як сьляза, што сярод партыйных кадраў няма ані дармаедаў, ані гультаёў, ані ашуканцаў, што ў ейных шэрагах згуртаваліся найлепшыя людзі, якія маюць ня толькі абавязак, але і маральнае права весьці і навучаць народ.

Паслухайма-ж, як характарызаваў гэтых партыйных настаўнікаў і прапаведнікаў «новага камуністычнага запавету» сам Мазураў ў сваім дакладзе на XXV зьезьдзе КПБ.

«У 1961 годзе, — казаў ён, ў нашай рэспубліцы быў выяўлены рад фактаў недастойных паводзін партыйных і савецкіх работнікаў, якія дапусьцілі прыпіскі й ашуканства». Далей Мазураў адзначыў, што апрача прыпісак і ашуканства, сярод часткі партыйных кадраў глыбока закарэнены пратэкцыянізм, хабарніцтва, зьняважлівае стаўленьне да людзей, бюракратычныя мэтады працы.

Але ў сваім дакладзе Мазураў не дагаварыў, не сказаў усёй праўды. Фактычна-ж працэс дэмаралізацыі партыйнага апарату, якую Мазураў раптам адкрыў толькі ў 1961 годзе, трывае ўжо цэлыя дзесяцігодзьдзі. Гэты працэс ахапіў вялікую бальшыню партыйных кадраў і асабліва партыйных вяльможаў. Калі-б Мазураў здабыўся на праўду, дык лаючы дармаедаў, гультаёў ды раскрадальнікаў народнай маемасьці, ён павінен быў-бы сказаць: найбольш іх сярод партыйцаў, сярод партыйных падлізьнікаў ды іхных сынкоў.

Кожнаму думаючаму чалавеку на Беларусі ведама, што гэтак званая сацыялістычная дэмакратыя і ўлада народу — гэта тэатральная камэдыя. Бескантрольная ўлада над народам ляжыць у руках партыі. Хто выбірае старшыняў калгасаў? Іх накідае райком, або нават абком. Хто кантралюе ўвесь дзяржаўна-адміністрацыйны апарат? Народ? Сьмешна й гаварыць: манапольная ўлада над усім жыцьцём ляжыць у руках партыі. Ня толькі манапольная ўлада, але поўны кантроль над народнай уласнасьцяй. А там, дзе манапольная ўлада над палітычным і эканамічным жыцьцём канцэнтруецца ў руках невялікай жменькі людзей, там, дзе здушаны голас усякай апазыцыі, — заўсёды прыходзіць дэмаралізацыя пануючай касты.

Прыкрываючыся ідэйнымі лёзунгамі камунізму, каста партыйнай бюракратыі дбае перш за ўсё аб сваёй кар'еры і нажыве. Апошнім часам гэта сталася масавым зьявішчам: працэс раскладу так паглыбіўся, што партыйныя галавары ня могуць яго ўтоіць.

Але ніхто — ні Мазураў на XXV зьезьдзе КПБ, ні Хрушчоў на цяперашнім зьезьдзе КПСС не сказалі, у чым палягае прычына, дзе ляжыць корань зла. Не сказалі таму, што тады давялося-б

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Аб небясьпецы выпрабаваньняў ядзернай зброі

Калі ў верасьні, на загад савецкага ўраду, у Савецкім Саюзе ўзнавіліся ядзерныя выпрабаваньні, мільёны людзей, якія ведаюць аб магчымых выніках гэтых выпрабаваньняў для здароўя людзей, не маглі ня быць устрывожанымі. Шмат хто чытаў напэўна навуковыя артыкулы савецкіх навукоўцаў у гэтым пытаньні. Вось што, напрыклад, піша сябра-карэспандэнт Акадэміі мэдычных навук Лебедзінскі ў кнізе пад загалоўкам «Аб шкодзе выпрабаваньняў ядзернай зброі», выдадзенай у Маскве ў 1959 годзе.

«Чалавек, які жыве на паверхні Зямлі, стала падлягае ўзьдзеяньню прыроднага ўзроўню радыяцыі, які складаецца з дзьвюх асобных крыніцаў — вонкавае і ўнутранае. У сваю чаргу вонкавае праменяваньне за кошт прыроднага ўзроўню абумоўліваецца ўзьдзеяньнем касьмічных праменьняў, выпраменяваньнем зямной паверхні і будаўнічых матарыялаў памешканьняў чалавека, выпраменяваньнем, крыніцай якога зьяўляюцца радыяактыўныя газы радон і тарон, якія ёсьць у паветры — гэта так званая атмасфэрная крыніца. Унутранае выпраменяваньне абумоўліваецца прысутнасьцяй у нашым целе радыяактыўных ізатопаў калію, вугляроду, радыяактыўных газаў (у крыві і ў іншых вадкасьцях арганізму), а таксама радыя, зафіксаванага ў касьцяной ткані. Агулам, прыродны ўзровень абумоўлівае атрыманьне чалавекам дозы, эквівалентнай тэй, якая атрымоўваецца пры ўзьдзеяньні рэнтгенавых праменьняў у дозе сто мілірэнтгенаў у год. Пры гэтым ня ўлічваецца доза, атрымоўваная за кошт радыя.

. . . У целе чалавека і жывёлы існуюць утварэньні, пашкоджаньне якіх невылячальныя. Яны ўлучаныя ў спадчыннае рэчыва, пашкоджаньне якога выклікае пагоршаньне спадчынных якасьцяў чалавека, якое выяўляецца ўва павялічэньні колькасьці спадчынных захворваньняў. У сучасны мамэнт уважаюць, што каля двух працэнтаў усіх выпадкаў спадчынных захворэньняў, што сустракаюцца ў людзей, а паводля некаторых дадзеных — 5 працэнтаў, абумоўленыя ўплывам прыроднага ўзроўню радыяцыі. Такі ўплыў янізуючых выпраменяваньняў акрэсьліваецца як генэтычныя вынікі радыяцыі. Шэраг дадзеных прымушае ўважаць, што колькасьць спадчынных захворваньняў павялічаецца проста прапарцыянальна да атрыманай дозы радыяцыі. З гэтага вынікае, што кожнае павялічэньне прыроднага ўзроўню, гэта значыць зьмена ў гэтым дачыненьні навакольнай прыроды, няўхільна можа выклікаць павялічэньне колькасьці спадчынных захворваньняў.

Асаблівасьцяй узьдзеяньня радыяцыі на спадчыннасьць ёсьць зьяўленьне ўжо ў першым пакаленьні анамаліяў разьвіцьця і захворваньняў.

Зьмены прыроднага ўзроўню ў выніку выпрабаваньняў ядзернай зброі адбываюцца ў раёне выпрабаваньняў у выніку ападаньня з трапасфэры радыяактыўнага пылу, які складаецца з адносна большых, і, значыцца, цяжэйшых часьцінаў, а таксама ўсюды ў выніку паступовага выпаданьня ў выглядзе ападкаў (дождж, сьнег) із стратасфэры, куды яны трапляюць у выніку выбуху.

Паўсюднасьць выпаданьняў тлумачыцца тым, што выкінутыя ў стратасфэру прадукты падзелу атамнага ядра падхопліваюцца плынямі, якія перамяшчаюцца вакол Зямлі.

. . . Абаронцы працягваньня выпрабаваньняў ядзернай і тэрма-ядзернай зброі намагаюцца паслабіць уражаньне ад магчымай небясьпекі для людзтва, выклікаваньнямі. Гэтыя выпрабаваньні скіраваныя супраць жыцьцёвых інтарэсаў чалавецтва. Калі доза выпраменяваньня, атрымоўваная ў працэсе

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

П. Урбан

# Масква на шляху да ліквідацыі гісторыі народаў СССР

Як ведама, у новай «Праграме» КПСС шмат увагі прысьвячаецца заплянаванаму зьліцьцю падсавецкіх народаў у «вадну савецкую нацыю». Гэта з асаблівай сілай падкрэсьліў таксама на XXII зьезьдзе КПСС М. Хрушчоў. Вітаючы «дабраахвотнае асваеньне ўсімі падсавецкімі народамі расейскае мовы ды кідаючы намёк на хуткае зьліквідаваньне падсавецкіх нацыянальных рэспублік наагул, Хрушчоў цынічна гаварыў: «Мы будзем падтрымоўваць аб'ектыўны працэс усё больш цеснага зьбліжэньня нацыяў і народнасьцяў, які адбываецца ва ўмовах камуністычнага будаўніцтва на базе дабраахвотнасьці й дэмакратызму. Неабходна ўзмацняць ўзгадаваньне масаў у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму й савецкага патрыятызму. Трэба з усёй бальшавіцкай няпрымірэнчасьцяй выкарчоўваць навет найменшыя праявы нацыяналістычных перажыткаў».

Гэтае «неабходна» й «трэба» адлюстравалася таксама ў справаздачах пра прабег зьездаў кампартыяў усіх бяз выключэньня савецкіх нацыянальных рэспублік. Замацаваўся ў гэтых матарыялах таксама й кірунак — куды сьхіляюцца гэтыя «неабходныя» й «трэба». Гэта — ўмацаваньне «дружбы зь вялікім расейскім народам» ды больш пашыранае вывучэньне расейскае мовы й асваеньне «перадавое» расейскае культуры.

У нашым артыкуле мы займемся пытаньнем ліквідацыі гістарычнага мінулага, наагул ліквідацыі гісторыі падсавецкіх народаў, што праводзіцца, як ведама, ужо здаўна ды што завайстрылася асабліва ад часу XXI зьезду КПСС. Гэтае пытаньне тым больш важнае, што на XXII зьезьдзе КПСС Хрушчоў апавесьціў тэстамант Леніна — «дасягнуць усімі магчымымі сяродкамі таго, каб **Русь** перастала быць беднай і слабай, каб яна сталася ў поўным сэньсе слова магутнай і багатай» — асновай свае нацыянальнай палітыкі. **«І мы дасягнулі гэтага!** — ускрыкнуў інтэрнацыяналісты Хрушчоў з трыбуны XXII зьезду КПСС. — Менавіта мы, бальшавікі, збавілі краіну ад нацыянальнай катастрофы, ад зьняволеньня чужаземнымі імпэрыялістымі й узьнесьлі яе ў вачох усяго людзтва» («Правда», 19. 10. 1961).

Так, запраўды бальшавікі збавілі Расею ад «нацыянальнай катастрофы», зьнішчаючы збройнай сілай здабытую незалежнасьць нерасейскіх народаў ды й цяпер разьвіўшы й удасканаліўшы царскую «турму народаў» аж да дасканаласьці. Таму Хрушчоў можа быць горды прарobленай працай — тэрорам, народазабойствамі ды сваёй новай праграмай зьліцьця «ўсіх руччоў у вадзіным расейскім моры». Слава Расеі й ейнаму цару Хрушчову!..

У 1960 годзе Інстытут гісторыі Акадэміі навук СССР прыступіў да напісаньня шматтомнай **Гісторыі СССР** у 11-ці тамах. Першыя 6 тамоў гэтае хвальшыўкі, якая ў СССР называецца «апошнім словам савецкай гістарычнай навукі», прысьвячаюцца дакастрычніцкаму пэрыяду гісторыі падсавецкіх народаў; іншыя 5 тамоў — гісторыі савецкага пэрыяду. Шматтомнік мусіць быць закончаны да 1967 году — да 50-годзьдзя Кастрычніцкай бальшавіцкай рэвалюцыі.

Як ведама, прыгаданы Інстытут штогоду, асабліва на працягу апошніх чатырох-пяці год выпушчае вялізарную прадукцыю гістарычнай літаратуры ў галіне гісторыі падсавецкіх народаў, галоўным чынам расейскага, а таксама вялікую колькасьць шматтомных абагульняючых працаў, як прыкладам, «Всемірная Історія» у 50 тамох. Таму, здавалася-б, пісаная цяпер шматтомная «Гісторыя СССР» не павінна выклікаць асаблівага зацікаўленьня ці адмысловых засьцярогаў. Аднак, у вапошнім выпадку справа выглядае інакш. Як будзем бачыць далей, прыгаданая шматтомная «Гісторыя СССР» ставіць сваёй мэтай прысьпешыць поўную ліквідацыю гісторыі нерасейскай гісторыі народаў Савецкага Саюзу, прывесьці яе да адзінага расейскага назоўніка. Яна будзе як-бы абагульненьнем шматгадовай савецкай практыкі ў справе нівэляваньня гісторыі нерасейскіх народаў, у першую чаргу — іхнага гістарычнага мінулага. Значыцца, шматтомная «Гісторыя СССР», як і наагул сучасная савецкай гістарычная навука, хавае ў сабе вялізарную небясьпеку для ўсіх нерасейскіх народаў СССР, тым больш, што яны, знаходзячыся ўва ўмовах татальнага паняволеньня й нацыянальнага прыгнёту, ня маюць магчымасьці рабіць дзейснага супраціву гэтай рэакцыйнай палітыцы Масквы.

Як правіла, аб характары тэй ці іншай гістарычнай працы можна меркаваць, вывучыўшы ейны зьмест. Аднак, хоць адзначаная шматтомная «Гісторыя СССР» знаходзіцца ў працэсе тварэньня, і такім чынам вонках нашага аналізу, ейны запраўдны зьмест і ідэялягічная накіраванасьць вельмі дакладна ведамыя хоць-бы з наступных крыніцаў.

Агульны кірунак сучаснай савецкай гістарычнай навукі вызначаны дырэктывамі XXI зьезду КПСС і асабліва пастановай ЦК КПСС «Аб заданьнях партыйнай прапаганды ў сучасных умовах» зь 9 студзеня 1960 году. У гэтай пастанове адзначалася:

> «. . . весьці няпрымірэнчае змаганьне супраць праяваў буржуазнага нацыяналізму, тэндэнцыяў да ідэалізацыі і затушоўваньня сацыяльных супярэчнасьцяў мінуўшчыны, да выкрыўленьня запраўднай гісторыі тэй ці іншай нацыі і ейных узаемадачыненьняў зь іншымі народамі СССР, супраць асобных праяваў нацыянальнай замкнёнасьці й выключнасьці» («КПСС в резолюціях і решеніях с'ездов, конференцій і пленумов ЦК», ч. 4, выданьне 7, Масква 1960).

Інакш кажучы, гэтыя дырэктывы, якія тычацца гісторыі нерасейскіх народаў СССР, адкрыта паставілі пытаньне аб выгнаньні з гістарыяграфіі гэтых народаў: 1) нацыянальных рысаў гістарычнага разьвіцьця; 2) досьледаў аб рухаючых нацыянальных сілах і спэцыфічных асаблівасьцях гэтага разьвіцьця; 3) гістарычных падзеяў і тэндэнцыяў, якія прыгадвалі-б аб варожым стаўленьні да Расеі і расейскага народу; 4) гістарычнага патрыятызму і нацыянальнае ахвярнасьці. Наагул яны паставілі пытаньне аб ліквідацыі гісторыі нерасейскіх народаў. Менавіта, пастанова дамагалася ад савецкіх гісторыкаў «рабіць галоўны націск на інтэрнацыянальнае выхаваньне працоўных, на далейшае замацаваньне прыязьні народаў, на няўхільнае зьбліжэньне і ўсебаковае ўзбагачэньне сацыялістычных нацыяў» (тамсама). Ад савецкіх гісторыкаў вымагалася стварыць ў будучыні такія працы, якія паказвалі-б гэтак званае «адзінства» гістарычнага працэсу ўсіх падсавецкіх народаў, «гістарычную заканамернасьць» іхнага няўхільнага

# „Савецкія вывазы нацыянальнасьцяў“

Зацікаўленьне на Захадзе доляй і нядоляй каляніяльных народаў штораз пабольшваецца ў сувязі з абмяркоўваньнем у ЗН пытаньня каляніялізму. Каляніялізм належыць да тых складаных гістарычных зьяваў, вывучэньне якіх вымагае багатае літаратуры: фактаў, прыкладаў, вывадаў, абагульненьняў. І трэба сказаць, што апошнімі гадамі на Захадзе зьявілася вельмі шмат навуковых працаў, зьвязаных тым ці іншым аспэктам з пытаньнем каляніялізму ў розных канцох сьвету. Адна з такіх працаў, выдадзеная летась, кніга ангельскага навукоўца Р. Конкўэста, загалоўленая «Савецкія вывазы нацыянальнасьцяў».

Дзьвесьце бачынак гэтае кнігі прысьвячаныя галоўна каўкаскім народам Чэчэнцам, Інгушом, Карачаеўцам, Балкарам, а таксама Калмыком, Паволскім Немцам, Крымскім Татарам. У пэрыядзе ад 1941 да 1944 году народы гэтыя былі вывезеныя із сваіх гістарычных мясьцін, і толькі ў 1957 годзе некаторыя зь іх былі часткава рэгабілітаваныя. На Захадзе вывазы гэтых і іншых падсавецкіх народаў разглядаюцца, як праява нарадагубства, найвышэйшая й найжахлівейшая форма сучаснага каляніялізму.

Кніга Конкўэста «Савецкія вывазы нацыянальнасьцяў» базуецца галоўна на савецкіх-жа дадзеных, каб цьверджаньні й вывады паставіць паза ўсякімі сумлевамі. У кнізе, бясспрэчна, выкарыстаныя й факты, прынесеныя ў заходні сьвет палітычнымі ўцекачамі з Савецкага Саюзу, а таксама некаторыя працы папярэдніх дасьледнікаў праблемы, як кніга Коляжа «Расея й яе калёніі», Гостлера «Туркізм і Саветы».

Кніга Конкўэста пачынаецца гістарычным нарысам: апісаньнем Каўказу й каланізацыі царскім войскам свабадалюбных горскіх народаў. Аўтар паказвае, што разам зь фізычным падбоем ішоў падбой духовы праз распаўсюджваньне ў расейскай літаратуры такіх русыфікатарскіх паняцьцяў, як «рускі Каўказ».

Царская няволя па рэвалюцыі 1917 году замянілася бальшавіцкай няволяй. Ленінскія рэвалюцыйныя заклікі, у якіх народам гаварылася, што «Ад цяперашняга часу вашая вера й звычаі, вашыя нацыянальныя й культурныя ўстановы абвяшчаюцца свабоднымі й недатыкальнымі!» — заклікі гэтыя праз 25 гадоў закончыліся нябывалай людзкой і нацыянальнай трагедыяй: вывазам пад канец ІІ-ое сусьветнае вайны больш за два мільёны народаў Каўказу, а таксама Калмыкаў, Крымскіх Татараў, Паволскіх Немцаў. Гістарычныя факты й статыстычныя лікі ўзятыя з афіцыйных савецкіх публікацыяў, як «Вялікая Савецкая Энцыкляпэдыя», газэта «Ізвестія». Аўтар спамінае таксама, што «вывазы вялізарных памераў» былі праведзеныя сярод беларускага, украінскага й балцкіх народаў, якія ў часе Другое сусьветнае вайны выразна выявілі сваю апазыцыйнасьць да Савецкага рэжыму. Ён прыгадвае, між іншага, сакрэтную прамову Хрушчова на ХХ-ым зьезьдзе партыі ў 1956 годзе. У тэй прамове Хрушчоў гаварыў аб злачынствах Сталіна. Хрушчоў заявіў тады, што караць цэлыя народы — гэта йсьці супраць ленінскіх прынцыпаў. Тым ня менш партыя й Хрушчоў на працягу даўгіх чатырох гадоў — ад сьмерці Сталіна да 57-га году — нічога не зрабілі, каб рэгабілітаваць пакараныя цэлыя народы й дагэтуль поўнасьцяй не рэгабілітавалі іх. Гэта, аднак, не перашкодзіла афэру гэтак званае «змовы лекароў», дзе несправядлівасьць закранала саміх партыйцаў, ліквідаваць адразу-ж па сьмерці Сталіна ў 1953 годзе.

Разам з прыкладамі народагубнага перасьледу савецкім рэжымам падбітых народаў аўтар кнігі «Савецкія вывазы нацыянальнасьцяў» разглядае тэарэтычныя палажэньні камунізму што да нацыянальнага пытаньня. Выцягваючы на дзённае сьвятло выказваньні Леніна, Сталіна ды іншых драбнейшых талмудыстых «адзінае сацыялістычнае нацыі», аўтар паказвае, наколькі супярэчлівыя гэтыя цьверджаньні зь гістарычнай праўдай. Ангельскі навуковец гаворыць у сваёй кнізе, што нацыяналізм у Савецкім Саюзе адчуваецца вельмі войстра ды што гэтак званая «ленінская нацыянальная палітыка» — гэта нішто іншае, як цынічнае намаганьне падмяніць духова чужым сурагатам сапраўдную нацыянальную свабоду.

**Х. У.**

---

## ДЭМАРАЛІЗАЦЫЯ ПАРТЫЙНАЙ БЮРАКРАТЫІ

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

ім засудзіць ня толькі сябе самых, але й

**Дэмаралізацыя партыйнай бюракратыі**

цэлую савецкую сыстэму. Таталітарная дыктатура, якая пануе на прасторах Савецкага Саюзу і народжаная ёю дэмаралізацыя партыйнай верхавіны — гэта справа іхных рук. Цяпер-жа яны, прыняўшы позу пракурораў асуджаюць партыйных ашуканцаў, абыходзячы маўчаньнем той факт, што ашукваць навучыла іх якраз партыя. На працягу даўгіх гадоў за ашуканства яны атрымоўвалі пахвалы, граматы і ардэны. На паперы перавыконваліся пляны, высылаліся ў цэнтр дзьмутыя справаздачы. І яшчэ нядаўна ніхто й словам пра гэта ня згадваў, хоць ведалі пра гэта ўсе. А ня згадаў таму што крытыкаваць можна толькі тое, што дазволіць партыя. І цяперашняя кампанія супраць ашуканцаў справы ня зьменіць. На месца старых ашуканцаў прыйдуць новыя, бо цэлая савецкая сыстэма — сыстэма ашуканства.

**Р. С.**

---

# Хрушчоў хвальшуе гісторыю

«Ленінская праграма пераўтвораная ў жыцьцё». Так ганарліва гучыць загаловак падразьдзелу ў дакладзе Хрушчова аб праграме КПСС.

Ужо толькі гэты падзагаловак зьяўляецца яскравым доказам, як савецкія кіраўнікі бясцырымонна падыходзяць да гістарычных фактаў і выкрыўляюць гэтыя факты паводля сваіх патрэбаў.

Савецкія кіраўнікі прынялі казуістычны, стары й зашмальцаваны мэтад дыктатараў: «факты даказваюць — тым горш для фактаў!»

Усё-ж мы зьвернемся да фактаў.

Першая праграма Расейскай Сацыял-дэмакратычнай Работніцкай Партыі, якая пасьля ператварылася ў партыю камуністых-бальшавікоў, была ўхваленая на зьезьдзе гэтай партыі ў Лёндане ў 1903-ім годзе. Аўтарамі гэтай праграмы былі Ленін і Плеханаў.

Хопіць прыгадаць толькі некалькі галоўных пунктаў гэтай праграмы, каб пераканацца, што наўсуперак цьверджаньням Хрушчова яна ніколі ня была зьдзейсьненая. Напрыклад, чацьверты пункт гэтай праграмы абяцаў недатыкальнасьць асобы й памешканьня. Пяты неабмежаваную свабоду сумленьня, слова, прэсы, сходаў, забастовак і згуртаваньняў. Сёмы пункт гарантаваў ліквідацыю рэлігійнай, расавай і нацыянальнай дыскрымінацыі. Дзесяты пункт прызнаваў усім нацыям права на самавызначэньне.

Тут паставім слушнае пытаньне: якія-ж з гэтых пастулятаў першай ленінскай праграмы быў цалкам зрэалізаваны, як гэта цьвердзіць Хрушчоў?

Другая праграма партыі была прынятая на 8-ым зьезьдзе кампартыі ў сакавіку 1919-га году. Тады Ленін ужо чуўся пераможцам і дакройваў праграму да «свайго пляча». Але і ў гэтай праграме былі пункты, якіх да гэтага часу ніхто ня думаў зьдзейсьніваць, напрыклад, стварэньне работніцкага самакіраўніцтва ў прамысловасьці, паступовая ліквідацыя дзяржаўных органаў, улады прымусу й бюракратыі, а таксама — грашовай сыстэмы і гэтак далей.

І гэтыя пастуляты другой ленінскай праграмы да гэтага часу ня зьдзейсьніліся, а іхнае зьдзейсьненьне Хрушчоў абяцае ў далёкай, неакрэсьленай часам, будучыні. Праўда, за выкананьне другой праграмы партыі Хрушчоў можа часткова зваліць віну на Сталіна, што ён цяпер вельмі-ж сквапна і робіць. Аднак гэты «ленінец» — Хрушчоў, робіць гэта вельмі-ж непераканальна.

І тут трэба прызнаць слушнасьць адназму зь лідэраў Другога Інтэрнацыяналу Каўцкаму, які перасьцерагаў, што ў Расеі «ня можа быць мовы аб радыкальным зьнішчэньні капіталізму. Капіталізм ізноў уваскросьне і, праўдападобна, у недалёкай будучыні» . . .

Ня будзем прыпісваць Каўцкаму прароцкіх свомасьцяў, аднак у пэўным сэнсе ягоныя прадбачваньні зьдзейсьніліся: у канглямэраце народаў — СССР —, які ўзьнік на руінах расейскай імпэрыі, стварыўся новы тып капіталізму — дзяржавы. Сёньня ў СССР дзяржава зьяўляецца капіталістым і эксплятататарам, і куды горшым, чымся рэжым перад кастрычніцкім пераваротам 1917-га году.

Пішучы другую праграму камуністычнай партыі ў 1919-тым годзе, Ленін падпарадкаваў сілай шмат народаў, якія абвесьцілі сваю незалежнасьць. Таму ў нацыянальным пытаньні ягоная другая праграма шмат адрозьнівалася ад першай з 1903-га году. Аднак у Канстытуцыі СССР Ленін дапусьціў кляўзулю, што «кажная нацыя мае права на самавызначэньне да адлучэньня ўключна». Як гэтае права выглядае, мы добра ведаем хоць-бы з прыкладу Вугоршчыны ў 1956-ым годзе, не гаворачы ўжо аб «праве на самавызначэньне» нацыянальных рэспублікаў СССР.

Як бачым, першая ленінская праграма камуністычнай партыі была зусім дэмакратычнай, другая — змадыфікаваная і дакроеная да імпэрыялістычных імкненьняў Леніна — куды менш дэмакратычная. Аднак ні адна, ні другая да гэтага часу ня была зьдзейсьненая ў Савецкім Саюзе.

Таму калі Хрушчоў ex catedra цьвердзіць, што «ленінская праграма ператвораная ў жыцьцё», дык яму можна сьмела закінуць хвальшаваньне гісторыі — навет гісторыі камуністычнай партыі . . .

---

# Эканамічныя праблемы савецкага блёку

Грандыёзны праект эканамічнай інтэграцыі камуністычных краінаў у рамках гэтак званай «Рады Эканамічнай Узаемадапамогі» — Камэкону — знаходзіцца пад паважнай пагрозай. Як ведама, краіны Ўсходняй Эўропы, якія ўваходзяць у склад гэтай Рады, абвесьцілі прынцып «сацыялістычнага падзелу працы». Але на практыцы яны далей ужываюць старую сыстэму двухбаковых пагадненьняў, што грунтуецца на асабістай выгадзе краінаў, якія дамаўляюцца.

Праект эканамічнай інтэграцыі камуністычнага блёку быў зацьверджаны ў травені 1958-га году, пры сустрэчы сакратароў ўсходня-эўрапэйскіх кампартыяў. Было пастаноўлена ўвесьці новы прынцып эканамічнага плянаваньня. Як мы сказалі — гэта прынцып «сацыялістычнага падзелу працы». На падставе гэтага прынцыпу кожная краіна, якая ўваходзіць у склад «Рады Эканамічнай Узаемадапамогі», спэцыялізуецца на акрэсьленай галіне прамысловай прадукцыі і забясьпечвае ёю іншыя краіны. Узамен яна атрымоўвае пэўныя прамысловыя вырабы іншых краінаў. Робіцца гэта, з аднаго боку, каб унікнуць непатрэбнага паралелізму ў адной і тэй-жа галіне прамысловасьці, а з другога — каб унікнуць празьмерных капіталаўкладаў, якія характарызавалі эканамічнае разьвіцьцё краінаў камуністычнага блёку да 1958-га году. Здавалася, што такая спэцыялізацыя выкліча павышэньне масавай прадукцыі ў кожнай асобнай галіне прамысловасьці.

З тэарэтычнага пункту гледжаньня гэты плян быў цалкам разумны. Але ягонае практычнае застасаваньне адразу сустрэла вялікія цяжкасьці, бо як толькі справа пайшла аб інтэграцыі разнастайных эканамічных акругаў — амаль адразу-ж узьнік канфлікт паміж інтарэсамі больш разьвітых і менш разьвітых краінаў.

Краіны з высокаразьвітай прамысловасьцяй захапілі найбольш складаныя — і таму найбольш выгадныя — галіны прамысловасьці, пакінуўшы адсталым краінам ролю дастаўшчыкаў сыравіны і паўфабрыкатаў. Адсталым краінам было запрапанавана распрацоўваць у першую чаргу крыніцы сыравіны. Гэта, натуральна, вымагае ад іх параўнальна большых і менш выгадных капіталаўкладаў. Зразумеўшы, што гэта для іх нявыгадна, адсталыя краіны, якія ўваходзяць у склад Камэкону, паўсталі супраць першапачатковага пляну і высунулі два дамаганьні. Папершае, яны запатрабавалі больш высокай аплаты даставаў сыравіны і паўфабрыкатаў, — аплаты, якая перавышае цэны сусьветнага рынку. Падругое, яны дамагаліся, каб індустрыялізаваныя краіны бралі ўдзел у капіталаўкладах, неабходных для распрацоўкі крыніцаў сыравіны. Абодва гэтыя дамаганьні, на канфэрэнцыі, што мела месца ў Будапэшце, у ліпені 1960-га году, індустрыялізаваныя краіны катэгарычна адкінулі. Адмова гэтая была вынікам зусім адкрытага эканамічнага эгаізму. «Чаму мы будзем плаціць павышаныя цэны за вугаль, серку або медзь, калі мы можам іх купляць таней на сусьветным рынку?» — гаварылі прадстаўнікі Чэхаславаччыны і савецкай зоны Нямеччыны. Адначасова гэтыя краіны адмовіліся браць удзел у капіталаўкладах, якія ня прыносяць ім беспасярэдняй выгады. Гэтыя разыходжаньні паміж гэтак званымі «братнімі» краінамі і выклікалі поўны правал пляну эканамічнай інтэграцыі камуністычнага блёку. Таму шмат якія краіны, якія бралі ўдзел у прыгаданай дыскусіі, і палічылі за лепшае вярнуцца да старой сыстэмы двухбаковых гандлёвых пагадненьняў.

Прыкладам, Польшча падпісала цэлы шэраг такіх пагадненьняў. Чэхаславаччына згадзілася ўкласьці каля 112-ці мільёнаў новых рублёў у польскія распрацоўкі меднай руды ўзамен за вызначаныя пагадненьнем штогадовыя даставы медзі. Савецкая зона Нямеччыны, узамен за нафту, забавязалася ўкласьці 67 мільёнаў новых рублёў у пабудову польскіх нафтаправодаў. Нядаўна Польшча падпісала з Чэхаславаччынай пагадненьне аб супольным выкананьні пляну вытворчасьці трактароў. У гэтай вытворчасьці Польшча будзе браць удзел даставай сталі і працоўнай сілы, а Чэхаславаччына — тэхнічным дасьветчаньнем сваіх спэцыялістых.

Ня трэба быць эканамістым, каб зразумець, што такія гандлёвыя пагадненьні, базаваныя на асабістай выгадзе і дакладным камэрцыйным разьліку — ня маюць нічога супольнага зь першапачатковай ідэяй інтэграванай эканомікі камуністычнага блёку. З камуністычнага пункту гледжаньня, гэтыя пагадненьні зьяўляюцца крокам назад, робячы непатрэбнай усю сыстэму Камэкону.

**Р. С.**

---

зьбліжэньня й згуртаваньня вакол расейскага народу, «гістарычную няўхільнасьць» іхнага зьліцьця на тэй-жа расейскай аснове. Кажнаму ясна, што дамагчыся гэтага нельга без выкрыўленьня гістарычнай рэчаіснасьці, бяз простага хвальшаваньня гісторыі нерасейскіх народаў.

Неўзабаве пасьля апублікаваньня пастановы ЦК КПСС зь 9 студзеня 1960 году, у сувязі з выданьнем гэтай пастановы, 29 сакавіка таго-ж году ў Маскве адбыўся сход актыву навуковых працаўнікоў маскоўскіх гуманітарных установаў Акадэміі навук СССР, скліканы прэзыдыюм гэтай Акадэміі. У працы сходу ўзялі ўдзел акадэмікі й сябры-карэспандэнты АН СССР, дырэктары й сакратары партыйных арганізацыяў інстытутаў, навуковыя супрацоўнікі аддзелаў гістарычных навукаў, эканамічных, філязофскіх і прававых навукаў, літаратуры й мовы АН СССР. З дакладам «Аб заданьнях грамадзкіх навук у сьвятле пастановаў ЦК КПСС аб партыйнай прапагандзе ў сучасных умовах» выступіў на сходзе віцэ-прэзыдэнт Акадэміі навук СССР акадэмік К. Астравіцянаў.

Сход прыняў адпаведную рэзалюцыю, якая, аднак, ня была апублікаваная, але зьмест якое, як сьветчаць іншыя крыніцы, забавязваў працаўнікоў грамадзкіх навукаў у тым ліку і савецкіх гісторыкаў, дзеіць у духу пастановы ЦК КПСС зь 9 студзеня 1960 году. Інакш кажучы, яна забавязвала савецкіх дасьледнікаў ператварыць грамадзкія навукі ў адну з формаў штодзённай партыйнай прапаганды. Прыкладам, у прыгаданым дакладзе акадэмік Астравіцянаў адзначаў, што «грамадзкія навукі здолеюць выканаць сваё заданьне толькі ў тым выпадку, калі яны будуць цесна зьвязаныя з практыкай камуністычнага будаўніцтва, з надзённымі заданьнямі партыйнай прапаганды» («Вопросы Історіі» № 5, 1960). Што да гістарычнага мінулага падсавецкіх народаў і ягонага асьвятленьня, ён гаварыў:

> «Справе камуністычнага выхаваньня спрыяе выяўленьне й вывучэньне заканамернасьцяў разьвіцьця людзкога грамадзтва ад найстаражытнейшых часоў да нашых дзён, у тым ліку і айчыннай гісторыі . . . Перад савецкімі гісторыкамі стаіць заданьне напісаць шматтомную «Гісторыю СССР» ад найстаражытнейшых часоў да нашых дзён, якая сталася-б важным сяродкам выхаваньня падрастаючага пакаленьня ў духу савецкага патрыятызму й інтэрнацыяналізму» (тамсама).

Гэтае гледзішча акадэміка К. Астравіцянава, выказанае, бязумоўна, з даручэньня партыі, было пазьней разьвітае ў вадпаведных дырэктыўных артыкулах галоўнага органу савецкіх гісторыкаў «Вопросы Історіі». У вадным зь іх адзначалася, што «савецкія гісторыкі, як і ўсе працаўнікі грамадзкіх навук, закліканыя рашуча наблізіцца да практыкі вуснай прапаганды, штодзённа браць удзел ў прапагандовай працы» («Вопросы історіі», № 6, 1961). Як вынікала зь іншага падобнага артыкулу, наагул

> «гістарычная навука . . . заўсёды служыць перш за ўсё вымогам сучаснасьці. Па сваёй прыродзе, па сваёй грамадзкай функцыі гістарычная навука заўсёды была пакліканая абслугоўваць найбольш актуальныя патрэбы ідэялягічнага жыцьця грамадзтва . . . Гістарычная навука была й застаецца арэнай войстрага ідэялягічнага змаганьня; яна была й застаецца клясавай, партыйнай навукай . . .» («Вопросы історіі», № 8, 1960).

Такім чынам, грамадзкія навукі ,у тым ліку й гістарычная навука, павінны згубіць сваё запраўднае прызначэньне, свой нэўтральны й агульнанародны характар, ператварыўшыся ў публіцыстыку прапагандовага характару, а таксама ў манаполь аднэй грамадзкай групы, у канчальным-жа выніку — у манаполь Масквы. Бязумоўна, што пры такім трактаваньні, прыкладам, гістарычнай навукі і ейнай манапалізацыі, пажаданыя вынікі й абагульненьні гістарычных досьледаў павінны быць загадзя забясьпечаныя. У дадзеным выпадку, аднак, нельга гаварыць, як гэта рабіў хоць-бы акадэмік Астравіцянаў, аб спрыяньні «справе камуністычнага выхаавньня» і «вывучэньні гістарычных заканамернасьцяў разьвіцьця людзкога грамадзтва» бязь сьведамага выкрыўленьня гістарычнай рэчаіснасьці, бяз гвалчаньня гісторыі падсавецкіх народаў.

Як мы маглі ўжо сьцьвердзіць, больш таго — гэты савецкі валюнтарызм вызначаецца сваім пачварным, рэакцыйным характарам у тым сэньсе, што Масква імкнецца ажыцьцявіць гэты свой ідэал выхаваньня савецкага грамадзтва ў «духу камунізму» і «сацыялістычнага інтэрнацыяналізму» толькі на шкоду гістарычным і нацыянальным інтарэсам нерасейскіх народаў, не закранаючы нацыянальных асноваў расейскага народу. Прыкладам, з аднаго боку яна вымагае ад савецкіх гісторыкаў уяўленьня гістарычных заканамернасьцяў» зьбліжэньня і зьліцьця падсавецкіх народаў з мэтай «выхаваньня савецкіх людзей у духу сацыялістычнага патрыятызму, **нацыянальнага гонару** й пралетарскага інтэрнацыяналізму» («Вопросы історіі», № 6, 1961). Але гэтае заданьне павінна быць дасягнутае толькі ў працэсе змаганьня супраць гэтак званага «буржуазнага нацыяналізму» ў гістарыяграфіі нерасейскіх народаў. Гэта падкрэсьліваецца яшчэ і яшчэ раз:

> «Выяўленьне найбагацейшага дасьветчаньня савецкага народу ў разьвязаньні нацыянальнага пытаньня, выхаваньне сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, паказ непахіснай, стала мацнеючай дружбы народаў, непарыўна зьвязанай зь няпрымірэнчасьцяй да перажыткаў буржуазнага нацыяналізму, — першачарговая справа нашых гісторыкаў. Яны павінны актыўна змагацца з узьнікаючымі там-сям тэндэнцыямі да ідэалізацыі мінулага, да выкрыўленьня запраўднай гісторыі тэй або іншай нацыі, ейных узаемадачыненьняў зь іншымі народамі Савецкага Саюзу, супраць асобных праяваў нацыянальнай замкнёнасьці й выключнасьці» (тамсама).

Ці трэба прыгадваць, што выяўленьне «заканамернасьцяў зьбліжэньня» падсавецкіх народаў і іхнага выхаваньня ў духу «нацыянальнага гонару» азначаюць працэс узмоцненай русыфікацыі як гісторыі, так і нацыянальнага жыцьця нерасейскіх народаў СССР наагул. Як першае, так і другое, ведама, павінны базавацца на гістарычна рэальнай аснове. Як сьветчаць вышэй адзначаныя дырэктывы, пачатае змаганьне супраць «буржуазнага нацыяналізму» ў гістарыяграфіі нерасейскіх народаў выключае ўсякую магчымасьць выхаваньня падсавецкіх народаў на традыцыях іхнай уласнай гісторыі. Значыцца, тут застаецца адзіная рэальная магчымасьць — гэта прылучэньне нерасейскіх народаў СССР да нацыянальных традыцыяў і культуры расейскага народу.

(Далей будзе)

# Гаруноўскія Ўзвышшы

**(Па сьлядох Краўчанкавага апавяданьня «Нязвычайная знаходка»)**

Ленін, прабуючы ўзьняць рэвалюцыю, ад першых-жа сваіх крокаў, наткнуўся зусім заканамерна, на паліцыйны перасьлед з боку царскага рэжыму. У выніку гэтага перасьледу ён улетку 1900 году мусіў стацца эмігрантам, каб у Заходняй Эўропе свабодна гаварыць, пісаць і дзеіць. У Нямеччыне ў 1902 годзе і выйшла адна зь ягоных асноўных працаў пад загалоўкам «Што рабіць» (Что делать?). Гэта была тэорыя, што вызначыла арганізацыйную структуру бальшавіцкае партыі ды легла ў васнову бальшавіцкае тактыкі — аж да сяньняшніх дзён.

Вось-жа ў гэтым ленінскім трактаце «Што рабіць?» пра канец XIX-га стагодзьдзя ў Расеі пісалася гэтак:

«У краі самадзяржаўным, з поўным паняволеньнем друку, у эпоху шалёнай палітычнай рэакцыі, што перасьледавала самаменшыя парасткі палітычнага незадаваленьня й пратэсту, — раптам прабівае сабе дарогу ў **падцэнзурную** літаратуру тэорыя рэвалюцыйнага марксызму, выкладаная эзопаўскай, але для ўсіх 'зацікаўленых' зразумелай мовай».

У народзе правільна кажуць, што «клін выганяюць клінам», і клін царскага самадзяржаўя быў нарэшце выганы клінам бальшавіцкае партыйнае дыктатуры. Але сталася так, што ў бальшавіцкім кліне засталося тое самае «поўнае паняволеньне друку», на якое жаліўся калісьці Ленін, засталіся палітычнае незадаваленьне й пратэст, а разам з гэтым — падцэнзурная літаратура ды выпрабаваны мэтад шыфраванай эзопаўскай мовы, гэтым разамськіраваны супраць новае формы самадзяржаўя.

Пэўна-ж, ня ўсе падсавецкія пісьменьнікі карыстаюцца эзопаўскай мовай, каб выяўляць свае праўдзівыя настроі. Аднак, у нашай гісторыі падсавецкага пэрыяду традыцыя супраціву ў літаратуры — даўная, плённая на розныя формы, трагічная сваімі выпадкамі.

У 1958 годзе ў Нью-Ёрку выйшла кніга прафэсара Антона Адамовіча «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры». У ёй паданы багаты літаратурны матар'ял, зь якога навочна відаць, як шырака ў дваццатых гадох у літаратурных творах хоць зашыфравана, але, як Ленін казаў, «для ўсіх 'зацікаўленых' зразумелай мовай», выказваліся праўдзівыя настроі беларускіх пісьменьнікаў.

Усевалад Краўчанка, чый пратэст з формы літаратурнае крыптаграфіі выліўся ўрэшце ў вапошні парахунак з жыцьцём трагічным спосабам самагубства ў часе падарожжа па Францыі, вырас і сфармаваўся на традыцыях беларускай крыптаграфіі і авалодаў дасканальна мэтад шыфраванага пісьма. Навочна прасачыць гэта можна на прыкладзе ягонага апавяданьня «Нязвычайная знаходка» , зьмешчанага ў зборніку апавяданьняў для моладзі «Тэорыя імавернасьці», што быў выдадзены ў Менску ў 1958 годзе.

Апавяданьне «Нязвычайная знаходка» кароценькае. Яно займае ўсяго дзесяць балонак кніжкі. У ім апісваецца падарожжа групы школьнае моладзі па родным палескім краі ўздоўж Прыпяці. Галоўная прыгода апавяданьня палягае на тым, што два хлопчыкі, адлучыўшыся ад групы ў шуканьні дагістарычных сьлядоў, заблукаліся й гэтым устрывожылі ўсіх сваіх сяброў. Урэшце, адзін зь іх, вярнуўшыся ўначы ўвесь запэцканы й змучаны, сказаў, што яны знайшлі ікол маманта ды страцілі шмат часу, каб выкапаць яго.

У апавяданьні, бязумоўная рэч, ёсьць усе аксэсуары сацрэалістычнага твору, улучна зь піянерскімі гальштукамі й піянерважатай. Але Краўчанкава эзопаўская мова гаворыць нам аб чымсьці зусім іншым.

Галоўны герой апавяданьня — вучань Ігар Мялешка. Калі, рыхтуючыся да пяцідзённага падарожжа, кожны вучань браў на сябе нейкі абавязак — і кожны ўзяў сабе штосьці «звычайнае й зразумелае» — дык Ігар, кнігалюб і выдатнік вучобы, як кажа аўтар, **«на зьдзіўленьне ўсім выдумаў ліха ведае што — заняцца палеанталягічнымі пошукамі»,** інакш кажучы гісторыяй, мінуўшчынай роднага краю, гэта, на думку Ігара, **«вельмі цікавая справа».**

Тут варта зьвярнуць увагу на асаблівае імя й прозьвішча героя: Ігар Мялешка. «Ігар», бясспрэчна, належыць да самых старых гістарычных імёнаў, услаўленых яшчэ ў вялікім літаратурным творы XII-га стагодзьдзя «Слове аб палку Ігаравым». «Мялешка»-ж добра знаны таксама з нашае гісторыі — ведамы найбольш сваім абвянаваччаньнем тых Беларусаў, што выракаўся свайго роднага слова, веры звычаяў. Мялешка быў смаленскім кашталянам (даўнейшы павятовы чын). З канца шаснаццатага стагодзьдзя да нас дайшло прыпісванае яму азначэньне нацыянальных рэнэгатаў: **«Хоць нашая костка, аднак сабачым мясам обрасла й ваняе.»**

Вось-жа гэты, так сымвалічна званы, Ігар Мялешка пастанавіў заняцца гістарычнымі пошукамі. Аўтар піша, што «задуму Ігара падтрымалі ўсе, у тым ліку й важатая. Падтрымалі хутчэй за ўсё таму, што была яна нязвычайнай: знойдзе там Ігар якія-небудзь сьляды ці не, затое **пасьмяяцца напэўна будзе з чаго.»** Гэтыя гіранічныя словы Ўсевалада Краўчанкі вельмі добра вызначаюць стаўленьне партыйнага «важатага» да беларускае гісторыі, якое забавязвае кожнага ды якое зводзіць да пасьмешышча нашую мінуўшчыну спосабам хвальшаваньня й выкрыўляньня аднаго ды нішчэньня й забароны іншага.

Ігару патрэбная была дапамога. Не зважаючы на насьмешкі, якімі была сустрэтая сказаць-бы, афіцыйна, ягоная пастанова, у групе вучняў знайшлося аж чатырох ахвотнікаў памагаць Ігару ў ягоных пошуках. Ігарава рэакцыя на гэта была характэрная й нядвузначная. Краўчанка сфармуляваў яе гэтак: «Ігар сказаў, што яму ў дапамогу патрэбен толькі адзін чалавек, і з усіх ахвотнікаў выбраў Дзіму Касуху, нізенькага шыракаплечага **маўчальніка.** І, відаць, выбраў таму, што той быў гэткім-жа, як і Ігар, спакойным і разважлівым, і **ня любіў лішне гаварыць.»**

Краўчанка сказаў гэта не выпадкова. Ён, як ніхто лепш, ведаў, што запраўднымі досьледамі свае мінуўшчыны ў нас на бацькаўшчыне, дзе сібірыць цэнзура й факты нацягваюцца на прапагандавы капыл, могуць займацца толькі тыя, хто знойдзеную праўду можа перахоўваць у вузкім коле **маўчальнікаў.**

Ігар і Дзіма адлучыліся ад групы й пайшлі шукаць сьлядоў мінуўшчыны. Яны пайшлі па незнаёмай мясцовасьці, дзе, як аўтар кажа, можна і «заблудзіцца» і «зваліцца дзе-небудзь з абрыву». Словам, можа стацца тое самае, што здарылася із шмат якімі шукальнікамі гістарычнае праўды, якія «пазаблуджваліся» ў лябірынтах паліцыйнае сеткі, якіх паськідалі «з абрыву», працы якіх panішчылі й пазабаранялі.

Але Ігар і Дзіма не баяліся невядомых абрываў. Іх цікавілі й вабілі да сябе «напластаваньні зямной кары». «Умеючы чытаць старонкі гэтага нязвычайнага летапісу», кажа аўтар, «можна шмат чаго даведацца аб жыцьці старажытных жывёлаў і расьлін, аб клімаце і граніцах мораў і **многа іншага вельмі цікавага.»**

Два шукальнікі мінуўшчыны доўга не варочаліся. Сярод іхных сяброў пачалася трывога, было пастаноўлена ўжо йсьці шукаць іх. Настрой быў «панылы», некаторым было «не да яды». Урэшце «яны заўважылі ў змроку постаць Дзімы». Ён быў сам адзін. І які? «Дзіма быў проста не падобны да сябе. Яго рукі, твар, сіняя майка, штаны былі запэцканы ў пясок і гліну. Можна было падумаць, **быццам ён на карачках лазіў па нейкіх земляных пячорах.»** У гэтай постаці сяньня мог-бы пазнаць сябе ці мала хто з тых Краўчанкавых старэйшых сяброў, што калісьці таксама хадзілі ў творчыя й дасьледніцкія пошукі залежаў роднае культуры й гісторыі, ды паварочаліся за 20-25 гадоў «не падобныя да сябе».

Характэрна таксама, што Дзіма вярнуўся сам адзін. Ігара зь ім ня было, і далей у вапавяданьні ён больш не зьяўляецца. На роспыты сяброў «Дзе Ігар?» Дзіма так і не адказаў: «Ён быў такі стомлены», піша аўтар, «што ў вадказ **толькі моўчкі махнуў рукой** . . . » Ад Дзімы сябры даведаліся, што пошукі закончыліся ткі ўдачай: на нязвычайную знаходку, ікол маманта, дапамог ім натрапіць «стары рыбак з Гаруноў». Але «ікол», сказаў Дзіма, быў не па іхнай сіле: **«мы ня можам удвух прынесьці яго, вельмі вялікі й цяжкі . . .»** (шматкроп'е аўтара).

Хадзілі-ж «маўчальнікі» па . . . «Гаруноўскіх Узвышшах» . . .

**А Будзіч**

## АБ НЕБЯСЬПЕЦЫ ВЫПРАБАВАНЬНЯЎ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

дасьледваньня хворага з кожным годам зьмяншаецца, дык доза, атрымоўваная ў выніку выпрабаваньняў, калі яны ня спыняцца, будзе расьці.

. . . Ганебны правал спробаў апраўданьня выпрабаваньняў няўхільны. Сапраўдная навука, якая служыць інтарэсам народу папераджае чалавецтва аб небясьпецы, якая яму пагражае».

Пра небясьпеку ядзерных выпрабаваньняў гаворыць таксама францускі навуковец Луі дэ Бройль у кнізе «Фізыка й мікрафізыка». Люі дэ Бройль піша, што людзі, пакліканыя быць ідэйнымі правадырамі сваіх народаў, павінны зрабіць усё, каб не дапусьціць да катастрофы ядзернай вайны. Тут яшчэ раз варта прыгадаць, што іншыя вялікія навукоўцы, у тым ліку і савецкія, няраз адзначалі, што нават выпрабаваньні ядзернай зброі становяць сабой вялізарную небясьпеку для насельніцтва цэлага сьвету, і, зразумела, для насельніцтва тэй краіны, дзе праводзяцца гэтыя выпрабаваньні. Прыгадаем, што было, калі савецкі ўрад рабіў выпрабаваньні ядзернай зброі паблізу Сяміпалацінску, у Казахстане, у 1957-ым годзе. Насельніцтву было сказана, што гэтыя выпрабаваньні не становяць сабой ніякай небясьпекі, што трэба толькі трымацца далей ад забароненай зоны. Але неўзабаве пасьля выбуху было высьветлена, што ў прыгранічных зонах загінулі ўсе пасевы, хатняя птушка і жывёла. Сярод навакольнага насельніцтва пачаліся масавыя захворваньні, якія суправаджаліся войстрымі галаўнымі болямі, высокай тэмпэратурай, часовым паралюшам, стратай валасоў і ўскладненьнямі ў лёгкіх, нырках і сьпінным мазгу. У шмат якіх выпадках гэтыя захворваньні канчаліся сьмерцяй. Праўдападобна, тады здарылася памылка ў разьліках што да кірунку вятроў. Так было ў 1957-ым годзе. Выпрабаваньні-ж ядзернай зброі, пачатыя савецкім урадам сёлета ў верасьні, паводля свае магутнасьці ў шмат разоў перавышаюць выбух 1957-га году. Вялікая колькасьць радыяактыўных ападкаў ад гэтых выбухаў выпадзе, праўдападобна, якраз на тэрыторыі Савецкага Саюзу. Таму усе людзі добрай волі зь вялікай трывогай думаюць аб няўхільных страшных выніках гэтых выпрабаваньняў для насельніцтва Савецкага Саюзу і ўсяго сьвету.

## ДА ЎВАГІ ЎПРАВЫ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ Ў АМЭРЫЦЫ!

**За зьмешчаныя апошнім часам 4 здымкі ў «Б-не» належыцца аплаціць:**

| Разьмер клішэ | Кошты |
|---|---|
| 6 x 8,5 | 20,75 |
| 12,5 x 8,5 | 28.90 |
| 6 x 8,5 | 20,75 |
| 5 x 8 | 16,10 |

**Разам у ДМ 86,50 = 22,50 дал.**

*Фэльетон*

# Ёсьць аб чым пашаптаць…

**З радыёвай хвалі «Свабода»**

У трэйцім разьдзеле дакладу «Аб праграме камуністычнай партыі Савецкага Саюзу» Мікіта Хрушчоў, гаворачы аб пэрспэктывах росту вытворчасьці збожжа, сказаў: **«Зь Беларусамі мы пагаворым у Беларусі. Мы там пашэпчам адзін другому на вуха!** Ёсьць аб чым пашаптаць!»

Гэтае «шаптаньне на вуха», думаем, не варожыць нічога добрага кіраўніком камуністычнае партыі Беларусі. Можна спадзявацца, што «шэпчучы некаму на вуха», Хрушчоў, маўляў, «возьме яго за вушка — ды на сонейка».

Але гэта ўжо не такое важнае. Прыказка кажа, што «балота бяз чорта не абыйдзецца». Пакоціцца адзін — прыйдзе другі. Горшае тое, што гэты «другі», навучаны горкім дасьветчаньнем свайго папярэдніка, будзе, напэўна, яшчэ горшым для нашага грамадзтва.

Было-б вельмі пажаданым, каб падчас гэтага «шаптаньня» Беларусы сказалі і Хрушчову «на вуха» аб тым, што ім баліць. А сказаць ёсьць шмат чаго . . .

Не гаворачы ўжо нават аб нацыянальных праблемах, Беларусы, «шэпчучы» з Хрушчовам, маглі-б папытацца:

— Чаму ў Беларусі хрушчоўскія падгалоскі загадваюць сеяць хрушчоўскую кукурузу навет там, дзе яна ня можа расьці? Гэта-ж спрычыняе вялікія шкоды сельскай гаспадарцы?

— Чаму зь Беларусі вывозяцца сотні тысяч маладых людзей у Казахстан ды іншыя мясьціны СССР, у выніку чаго насельніцтва краіны штогоду пагрозьліва зьмяншаецца?

— Чаму зь Беларусі вывозяцца ўва ўсе куткі сьвету розныя машыны, якіх не стае ў Беларусі, з прычыны чаго моцна церпіць гаспадарка краіны?

— Чаму ў гэтак званай «перадавой краіне сьвету» — Савецкім Саюзе — у складзе якога мучыцца і Беларусь, няма дзе купіць цьвікоў, каб прыбіць дранку на даху кароўнікаў, пабудаваных сіламі калгасьнікаў?

Шмат, шмат аб чым маглі-б сказаць Беларусы «на вуха» Хрушчову, калі ён прыедзе на гэтае «шаптаньне» у Беларусь.

Нажаль, яны ня будуць мець змогі сказаць усё гэта — не дазволіць хрушчоўскае ЦК КПБ. І само не папытаецца.

А шкада, вельмі шкада!

*Зь Беларускага жыцьця*

**З жыцьця прыходу БАПЦ ў Мэльбурне (Аўстраліі)**

15 кастрычніка прыхаджане Прыходу БАПЦ ў Мэльбурне сьціпла, але годна адзначылі 40-годзьдзе сьвятарства свайго настаяцеля, высокапаважанага а. архімандрыта Мадэста.

Пасьля Багаслужбы прыхаджане сабраліся ў царкоўнай залі. Старшыня Парафіяльнае Управы і адначасова стараста Царквы сп. Д. Кажура ад імя прыхаджанаў прывітаў айца архімандрыта Мадэста з саракагодзьдзем ягонага сьвятарства, падзякаваў яму за ахвярную працу на царкоўнай і грамадзкай ніве і пажадаў здароўя й сілаў для далейшай працы на карысьць Беларусаў Мэльбурну й Аўстраліі. Пасьля сп. Кажура перадаў Юбіляту сьціплы падарунак, а хор, пры падтрымцы ўсіх прысутных, адсьпяваў Айцу магутнае «Многае лета».

Узварушаны а. Мадэст адказаў прамовай, у якой падзякаваў царкоўнаму старасьце і прыхаджанам за ветлівыя словы й падарунак. А. Мадэст прыгадаў сваё мінулае і падкрэсьліў сваю моцную волю далей працягваць сваю адказную працу на славу Богу і для дабра беларускага народу ды заклікаў усіх Беларусаў Мэльбурну да згоды, еднасьці і супольнай працы.

**Прыхаджанін**

# УВАГА! УВАГА!

Заканчваецца друкаваньне новай, з чаргі ўжо 16-ай кнігі Выдавецтва «Бацькаўшчына» — збору літаратурных твораў аднаго з выдатных беларускіх паэтаўнашаніўцаў **Алеся Гаруна**

**МАТЧЫН ДАР**

**і іншыя творы.**

Апрача твораў Алеся Гаруна, кніга зьмяшчае два вялікія ўводныя артыкулы: праф. Ант. Адамовіча «Алесь Гарун. Жыцьцё й Творы» й праф. А. Барычэўскага «Матчын Дар» Алеся Гаруна»; а так-жа патрэт аўтара й абыймае 270 бачынаў друку. Прыгожую каляровую вокладку выканаў мастак Міхась Наўмовіч. Цана кнігі **3 амэрыканскія даляры** або іхная раўнавартасьць у іншай валюце. Замаўляць і выпісваць можна беспасярэдна з Адміністрацыі газэты «Бацькаўшчына» або з Прадстаўніцтваў «Бацькаўшчыны».

Кажны сьведамы Беларус павінен прыдбаць гэтую цікавую й цэнную кнігу.

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

# Пасылкі ў СССР

Нядаўна ў Нью Ёрк з Савецкага Саюзу вярнулася каля шасьцёх тысячаў пасылак. Прадукты, мэдыкаманты, вопратка, высланыя жыхарамі Амэрыкі родзічам і знаёмым у Савецкім Саюзе, не пайшлі далей за Адэсу й былі адасланыя назад. Пяць тысячаў пасылак яшчэ ўсё ляжаць на складзе фірмы, праз якую яны былі высланыя. Людзі, што паслалі былі іх, устрывожыліся. Шмат хто пачаў зварачацца да сваіх кангрэсавых прадстаўнікоў з просьбай паставіць гэтае пытаньне перад законнымі ўладамі. 22 верасьня сэнатар Томас Додд выступіў у Амэрыканскім Сэнаце з прамовай у гэтай справе. Адсюль пытаньне верненых пасылак разыйшлося па амэрыканскай прэсе. Што-ж здарылася?

Пасылкі — дзесьці ўвесну яшчэ — былі высланыя праз ньюёркаўскую фірму «Джэнэрал Парсэл энд Травэл Компаны». Як выяўляецца, кампанія гэтая — савецкае прадпрыемства. Праўда, кіруюць яго фармальна амэрыканскія грамадзяне. Пачкі, высланыя гэтай фірмай у Савецкі Саюз, вярнуліся назад дзеля таго, быццам, што савецкім уладам за іх ня былі аплачаныя падаткі, хоць фірмаю ўсе грошы былі ўзятыя. Ня выключаецца магчымасьць, што грошы дзесьці запрапасьціліся ў прыватнай кішэні. Справа гэтая знаходзіцца цяпер у руках Гензрал Пракурора ЗША.

Усё гэта зьвярнула ўвагу шырэйшых колаў амэрыканскага грамадзтва на дзейнасьць пасылкавых кампаніяў у Амэрыцы ды на савецкае зарабляньне даляраў на чужой бядзе.

Пастаўма цяпер пытаньне: Чаму Савецкі Саюз апошнімі гадамі пачаў спрыяць пасыланьню пачкоў з Амэрыкі савецкім грамадзянам? Для савецкае ўлады гэта-ж зусім нявыгодна. Агітатары бо цьвердзяць, што ў Амэрыцы беспрацоўе й голад, а нашыя людзі, пабыўшы тут колькі гадоў, могуць ужо ня толькі самі пад'есьці, але й памагчы родзічам у Савецкім Саюзе. І бясспрэчна, што дырыжоры савецкае прапаганды дасканальна ведаюць аб гэткім ходзе разважаньня сярод сваіх падуладных. Значыцца, павінны быць нейкія выгоды, якія змушаюць савецкі ўрад цярпець запярэчваньне савецкае прапаганды амэрыканскімі пасылкамі. Якія-ж гэта выгоды? — Здагадацца ня цяжка: даляры. І гэтых даляраў у савецкія рукі перападае куды больш, чымся сабе гэта можна ўявіць.

Жыхару Амэрыкі, каб выслаць пасылку ў Савецкі Саюз, трэба плаціць падатак, плаціць на карысьць не амэрыканскага, а савецкага ўраду. Падатак гэты бязьмерна вялікі — нагэтулькі вялікі, што, калі-б яго трэба было аплачваць савецкаму грамадзяніну, дык яму давялося-б проста адмовіцца ад пасылкі. Выхад з палажэньня быў знойдзены такі, што падатак аплачвае той, хто пасылку высылае. Пасылак-жа ў Савецкі Саюз штагоду высылаецца сотні тысячаў. Толькі ў вадным Нью-Ёрку ёсьць пяць вялікіх фірмаў, што займаюцца высылкай пачкоў у Савецкі Саюз. Спамінаная ўжо фірма «Джэнэрал Парсэл энд Травэл Компаны» штогоду высылае ў Савецкі Саюз 30 тысячаў пасылак. У сярэднім, па аплочаньні ўсіх выдаткаў, пасылка каштуе таму, хто яе высылае, каля ста даляраў. Зь іх 31 даляр у форме падатку бярэ савецкае агенцтва «Інтурыст», якое гэтаю справаю займаецца. Такім парадкам, толькі ад аднае фірмы савецкі ўрад атрымвае штагоду — афіцыйна — каля міліёну даляраў. А гэткія-ж фірмы дзейнічаюць бадай па ўсіх большых гарадох Амэрыкі! Гэтыя міліёны даляраў і ёсьць тая цана, якую савецкая ўлада бярэ за тое, што дазваляе амэрыканскім пасылкам запярэчваць цьверджаньні камуністычнае прапаганды. Цану гэтую плацяць амэрыканскія родзічы савецкіх грамадзянаў — плацяць, ствараючы адзін з парадоксаў сучаснага сьвету: даючы чужому ўраду грошы на падрыўную дзейнасьць у гэтай-жа Амэрыцы.

**Я. З.**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon,** Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).







**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**